# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

9 лістапада1999 №27 кошт 1 літ

## Пакт Молатава – Рыбэнтропа: гістарычная й палітычная ацэнка



Пакт Рыбэнтропа – Молатава гэта канстатацыя змовы дыктатараў паводлі старога, як сьвет, лёзунга «Падзяляй і ўладар!» Ніякія маральныя, прававі, культурныя й, наогул, цывілізаваныя формы не маглі быць прынятыя да ўвагі ні Гітлерам, ні Сталіным. Ні першы, ні другі не задумваліся ні над правамі чалавека, ні над правамі вялікіх і малакольскасных народаў. Яны адно толькі прыкрывалі свае дзеяньні рознымі шырмамі, рознымі занавесамі прыстойнасьці, – у гэтым іхняя рознасьць. Сутнасьць жа тая самая: неабмежаваная прага ўлады. Здавалася б, палітыкі й народы павінныя шмат чаму навучыцца, перажыўшы сталінізм і гітлерызм. Аднак, на жаль, гэта ня так. Палітыкі, каторыя па сваім статусу павінныя перадусім дзейнічаць на карысьць народаў і дзяржаваў, г. зн. паводзіць сябе паводле ўрокаў і высноваў навукі, паводзяцца зусім іншым чынам, кіруючыся зусім іншымі памкненьнямі.

Ва ўмовах сучаснай Беларусі дзеяньні правячага рэжыму, каторыя цяжка назваць палітыкай, прадыктаваныя ў лепшым выпадку звычайнай абывацельскай падсьвядомасьцю, а хутчэй – інстынктамі, нястрыманым жаданьнем захаваць, умацаваць, пашырыць асабістую ўладу. Беларусь выпадае, калі ўжо ня выпала, з агульнаэўрапэйскага дэмакратычнага працэсу. Яна сталася полем нецывілізаванага сацыяльнага экспэрымэнту. Насуперак сусьветнага досьведу тут робіцца спроба стварыць у цэнтры Эўропы эканоміку мабілізацыйнага кшталту. Беларусь, па-сутнасьці, зрабілася зонай камуністычнага рэваншу, як у палітычнай, гэтак і ў эканамічнай сферах. Чаму гэта адбываецца? Гэта адбываецца таму, што, дзякуючы часовай бачнасьці дэмакратычнасьці працэдуры выбраньня ўлады, улада апынулася ў руках папулістаў, якія ня маюць досьведу дзяржаўнага кіраваньня й не ўяўляюць сабе сутнасьці эканамічных працэсаў. Яны кіруюцца ў лепшым выпадку абыдзеннай падсьвядомасьцю. Менавіта гэткая сытуацыя як найлепш пасуе нашаму ўсходняму суседу. І, на жаль, шмат каму на Захадзе. Але пра гэта пазьней.

Беларуская эканоміка перажывае крах. Я прывяду толькі некаторыя лічбы. Абясцэнка нашай валюты ў 200 разоў большая, чым абясцэнка расейскага рубля, хаця й той абясцэнены вельмі моцна. Сёньня за поўмільёна бел. рублёў даюць $ 1 або 25 рас. руб. Кратнасьць дэнамінацыі адрозьніваецца ў нас у 100 разоў – адсюль лічба 200. Інфляцыя. Паводле афіцыйнай статыстыкі за 6 мес. сёлета яна склала 86,6%, за 8 мес. – 111%. Замежныя інвестыцыі складаюць $ 5-7 на чалавека ў год, г. зн. практычна роўныя нулю. Часовае ажыўленьне нутранога валавага прадукту было дасягнутае за кошт праяданьня абаротных сродкаў з хуткасьцю 10% у год. Але ўжо сёлета, нават афіцыйная прапаганда, ня можа назваць хоць бы які ўмоўны рост нутранога валавага прадукту. Афіцыйна абвешчана аб ягоным спадзе ў чэрвені.

Шырмай, з дапамогай якой прыкрываецца гэткае цяжкое становішча ў эканоміцы Беларусі, зьяўляецца 100-працэнтовая манапалізацыя дзяржавай электронных СМІ. Якое ж выйсьце? Выйсьце было прадугледжанае тымі дэмакратычнымі працэдурамі, каторыя былі закладзеныя ў нашую Канстытуцыю 1994 г. Аднак «дасьведчаныя» кансультанты (а гэта былыя супрацоўнікі ідэалягічных аддзелаў ЦК КПСС і КДБ), навучылі нашых уладалюбных кіраўнікоў, каторыя прыйшлі да ўлады законным чынам, пакончыць з дэмакратыяй. Быў праведзены псэўдарэфэрэндум, была зьмененая Канстытуцыя, каторая паводле аналізу юрыдычных экспэртаў Эўропы (экспэртызу рабілі ажно 3 незалежныя камісіі) прызнаная абсалютна недэмакратычнай, пра што абвешчана ўсяму сьвету й Эўропе.

Эўропа пачала шукаць выйсьце з гэтага складанага становішча й накіравала да нас Кансультацыйна-назіральную групу АБСЭ. Здавалася, дыпляматы дапамогуць нам, дэмакратычнай апазыцыі, знайсьці выйсьце са стварэнага тупіка. Аднак заходнія дыпляматы, на жаль, аказаліся нашмат слабей і ўменьнем весьці перамовы, і напорыстасьцю ў параўнаньні з беспрасьветным нахабствам нашых уладаў: увесь час верылі абяцанкам, абвяшчалі, што яны дасягнулі дамоўленасьці з нашым рэжымам аб пэўных уступках. Ды ніводнай найменшай уступкі за ўвесь час існаваньня дыктатуры не было зроблена.

Бачачы бясплоднасьць сваіх намаганьняў і жадаючы апраўдаць тое, што яны доўга й бясплённа працуюць у Беларусі, прадстаўнікі Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ, ейны старшыня сп. Вік, ягоны заступнік сп. Кляйнэр пачалі зьдзяйсьняць націск на апазыцыю, маўляў, яна недастаткова згаворлівая. Маўляў, вам абяцаюць, а вы чамусьці нічога ня робіце. Пачалі самі адбіраць апазыцыю! У выніку ўлетку бягучага году у Бухарэст гэтая Кансультацыйна-назіральная група падабрала такіх людзей, якія, шчыра кажучы, у большасьці сваёй ніякага дачыненьня да апазыцыі ня маюць. Дзякуючы вось гэтай бухарэсцкай сустрэчы была прынятая «Санкт-Пецярбургская дэкларацыя» на саміце АБСЭ, якая

*Працяг на старонцы 3*



Здымак Дзяніса Раманюка

# ВІЛЕНСКАЕ СЬВЯТЛО

Традыцыя віленскага фотакраявіду была запачаткаваная разам зь беларускай фатаграфіяй наогул. Першы здымак Вільні быў зроблены Альбэртам Сьвяйкоўскім яшчэ ў 1854 годзе. І як пачатак кожнага жанру, фота спарадзіла шэдэўры. Ужо фатаздымкі Язэпа Чаховіча, які да ўсяго здымаў паўстанцаў 1863 года, укладзеныя ў альбом «Виды Вильны», атрымалі залатыя і сярэбраныя медалі на міжнародных выставах у Парыжы, Рыме і Маскве.

Доўгія дзесяцігодзьдзі йснаваньня тэмы віленскага краявіду былі ўляўраваныя фотавідамі Вільні, якія стварыў Ян Булгак. Вынікам ягоных блуканьняў па гэтым месьце напару зь Іванам Луцкевічам, сталі дзьве фундамэнтальныя сэрыі 1912 - 1919 і 1926 - 1936 гадоў. Ён першы паставіў сабе на мэце ня проста фіксаваць шэраг аб'ектаў, альбо краявідаў, шукаючы трапны прыгожы эфэкт, але стварыць гэтыя эфэкты самім. Выкарыстоўваючы розныя тэхналёгіі вырабу здымкаў ён ствараў дадатковую, паралельную рэальнасьць. На жаль, у часе апошняе вайны многія здымкі з другой сэрыі былі зьнішчаныя. Па вайне зь беларускага фотамастацтва Вільня выпадае цалкам, роўна ж як і з нацыянальнай сьведамасьці. Сорак гадоў амаль поўнага зьняменьня нацыі сталіся гадамі, страчанымі для нашага разуменьня гэтага места. Першым з прафэсійных фатографаў тэму Вільні ў нашым мастацтве ўзнавіў Уладзімер Парфянок. Ягоная сэрыя здымкаў 1987 года, прыадчыняла вакенца ў новы, малавядомы ўжо ў БССР, сьвет паўсядзённага віленскага жыцьця. У завірусе першых гадоў аднаўленьня незалежнасьці Літвы ў Вільню зачасьцілі й беларускія фотажурналісты — Грыц, Кляшчук, Крыштаповіч. Іхныя здымкі данесьць да нас ня толькі віленскае сьвятло. Але і яго беларускасьць. Існавала падсьведамая перакананасьць, што неўзабаве яно вельмі спатрэбіцца ў самой Беларусі. І сьвятло Вільні неўзабаве сапраўды надалося. На працягу 1991-1993 гадоў дзясяткі здымкаў гэтага места зьявіліся ў розных беларускіх часопісах — ад «Беларусі» да «Крыніцы» зь «Бярозкаю». Беларусь, нібы ў прадчуваньні доўгага растаньня, працягвала да яго свае рукі, нібы дзіцё да маці, спрабуючы на разьвітаньне запомніць самыя драбносткі ягонага аблічча. Як у вершы Алеся Разанава: «Блукаю па Вільні. На даўніх мурах новыя назвы».

Дзяніс Раманюк, сын славутага беларускага этнографа й мастацтвазнаўцы Міхася Раманюка ізноў вярнуўся да тэмы тутэйшае этнаграфіі, стварыўшы ўнікальныя мастацкія дакументы сярэдзіны 90-х гадоў. Малады мастак, які пражыў сам у Вільні некалькі гадоў, бачыць скрозь фотааб'ектыў куды больш, чым ягоныя папярэднікі. Імкнучыся стварыць адметнае, гледзячы зь сярэдзіны, з нутра найноўшага віленскага жыцьця, ён знайшоў свой ракурс там, куды яшчэ не зазірала беларускае фота. Робячы партэты сваіх равесьнікаў-маладзёнаў, аднакурсьнікаў, выпадковых дзяцей, ён зазірнуў у вочы віленскай будучыні. Сэрыя Раманюка «Дзеці Зарэчча», пераводзіць увесь лад беларускіх гутарак пра Вільню ў іншае, толькі людзкае, проста людзкае рэчышча, калі сплываюць шматлікія нацыянальныя містыфікацыі. Чыстыя дзіцячыя вочы ў духмяным сьвятле сонечнай сталіцы... У апошнім часе Дзяніс Раманюк узяў сабе за мэту ўстаць поплеч з Янам Булгакам. Шпацыруючы штодня па Вільні, узімку і ўлетку, ён фіксуе гарадзкі краявід, нібы пацерку да пацеркі, складаючы ружанец... Вільня паступова ў ягоных здымках становіцца аб'ектам па-за часам. Як кажа пра ягоныя работы літаратар і крытык Адам Глёбус: «У іх застаецца толькі сьвятло віленскае прасторы. Яны не прывязаныя да пэўнага часу, а таму іх цікава будзе разглядаць заўсёды». І праўда, рэаліі нашага будзённага жыцьця блякнуць, бцьвеюць ды, урэшце, зьнікаюць... Застаецца эпічнае хараство Вільні. Вільні, якая, як некалі пісаў Ядвігін Ш., «увабрала ў сябе ўсё лепшае, што можа даць прырода й стварыць чалавек». У сваёй праграме быць вартым Яна Булгака, Дзяніс Раманюк блізкі да першага яе этапу. А менавіта — ўзнавіць тую частку віленскага сьвятла, з тае другое сэрыі выбітнага фатографа, якое было страчанае разам з майстэрняю Булгака, у вагні Варшаўскага паўстаньня 1944 году... У гэткі спосаб Раманюк дадае да Булгака. Разам з тым, гэта зусім не падражальніцтва. Сама меней, з прычыны таго, што ў руках Дзяніса Раманюка зусім іншая, найноўшая тэхніка. І апраўдана — большыя магчымасьці. А гэта азначае, што напрыканцы стагодзьдзя мы маем надзею вярнуць Вільню ў новым, дагэтуль ня бачаным сьвятле...

**Сяргей Харэўскі**


Здымак Дзяніса Раманюка

**17 лістапада**, у сераду, аб **13.00** у капліцы Вострая Брама й касьцёле Сьв. Тэрэсы для беларусаў Літвы адбудзецца набажэнства ў роднай мове «За Беларусь і ейных дзяцей». На гэтую рэлігійную ўрачыстасьць запрашаюцца добрыя людзі ўсіх нацыянальнасьцяў і рэлігійных канфэсіяў.

Дарагія суайчыньнікі! Прыходзьце й прыяжджайце ў Вільню, дзе ўсе разам памолімся перад нашай нацыянальнай сьвятыняй, абразам Маткі Боскай Вострабрамскай, і папросім яе заступіцца за нас, каб нашыя дзеці жылі ў вольнай, багатай і незалежнай краіне.

*Каталіцкая грамада касьцёла Сьв. Барталамэя*

# ДЗЯЎЧЫНКА Ў СІНЯЙ СУКЕНЦЫ

## ДА 5-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ СЬМЕРЦІ ЗОІ КАЎШАНКІ

Зоя Каўшанка (Зоя Коўш) належыла да таго пакаленьня, якое ворагі беларушчыны называлі з пагардай і нянавісьцю «людзьмі зь мінуўшага». Але тое «мінуўшае» мела за аснову пашану да сваёй культуры й роднай мовы, сапраўдную, а не паказную хрысьціянскую мараль, — яно й памагло людзям пакаленьня спн. Зоі пранесьці праз усё жыцьцё ідэалы БНР, адданасьць і вернасьць Радзіме.

Зоя Каўшанка радзілася 16 красавіка 1911 г. у Любліне, дзе ейны бацька, Аляксандар Коўш, працаваў у банку. Напачатку Першай сусьветнай вайны банк разам з супрацоўнікамі быў эвакуяваны на ўсход. Малой Зоі давялося павандраваць па Расеі, на цэлых 7 гадоў вайна разлучыла яе з родным краем. На чужыне пачала хадзіць у падрыхтоўчыя клясы гімназіі. Урэшце ў 1921 г. бацькі вярнуліся на Бацькаўшчыну. У Гародні жыла яшчэ Зоіна бабуля, якой было ўжо каля сотні гадоў: сям'я Каўшоў прыпынілася ў ейнай старэнькай хаце.

Бацька быў чалавекам веруючым, рашыў рыхтавацца на духаўніка. Ён дамогся свайго й быў высьвечаны на праваслаўнага сьвятара. Атрымаў прыход у Ваўкавыскім павеце. Дачушку пачаў рыхтаваць дома з праграмы трох першых клясаў гімназіі. Увосені 1925 г. Зоя здала іспыты й паступіла ў 4 клясу Віленскай Беларускай Гімназіі. Ейныя бацькі прыдбалі тады ў Вільні невялікі драўляны дамок на вул. Летняй (Васарос) на



У гасьцёх у спн. Зоі: Л. Кароль, Г. Войцік, Л. Луцкевіч, Л. Шышэя, К. Шышэя, А. Анішчык, А. Кратовіч, З. Каўшанка.

Антокалі, дзе Зоя пражыла да канца сваіх дзён. «Мае ўспаміны аб Вільні, —згадвае Зоя, — а тым самым і аб гімназіі, неадлучныя з Антокалем, а, дакладней, з адной зь ягоных вулак — Летняй. Вулка вужакай віецца сярод узгоркаў, аброслых соснамі, а ў нізінцы туляцца да ўзгоркаў невялічкія драўляныя дамкі віленскіх мяшчанаў: хто вышэй, хто ніжэй, дзе каму спадабалася. Пры дамках



*1911 — 1994*

садкі й гародчыкі, і ў кожным вясною цьвіў бэз, вабіла сваім мяккім водарам чаромха — селішча салаўёў. Гэткіх дамкоў на Летняй было адзінаццаць. Адсюль у беларускую гімназію хадзіла нас восем чалавек — усё насельніцтва вуліцы школьнага веку».

Гімназію Зоя закончыла ў 1929 г. Паступіла на юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Пасьпяхова закончыла навуку, атрымала дыплём і... аказалася беспрацоўнай. Ва ўмовах міжваеннай Польшчы беларусу, нават з дыплёмам, цяжка было ўладкавацца на працу. У пошуках яе прайшлі гады.

У верасьні 39-га санацыйная Польшча перастала йснаваць. Мяняліся ўлады, але знайсьці працу паводле спэцыяльнасьці было немагчыма — давodзілася прабівацца на розных работах.

Улетку 1941 г., калі Вільню акупавалі немцы, тут быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт. Першы старшыня Камітэту Вацлаў Іваноўскі запрапанаваў Зоі Каўшанцы становішча юрысконсульта. Працавала яна ў БНК напрацягу ўсяго акупацыйнага часу да 1944 г. уключна. Камітэт існаваў у вельмі складаных варунках. Ягонай мэтай была апека над бел. насельніцтвам, што пражывала ў межах Літвы, а таксама захаваньне культурнай спадчыны. Гэта й бел. школкі, і ВБГ, і Бел. музэй імя І. Луцкевіча. Выходзіла бел. газэта «Голас беларуса», нейкі час вяліся й бел. радыёперадачы, але іх забаранілі мясцовыя літоўскія ўлады.

Ды, бадай, самае йстотнае ў дзейнасьці БНК было тое, што ён сыстэматычна вызваляў з вастрогаў беларусаў, каторых без сур'ёзных падставаў, часта па ілжывых даносах, арыштоўвалі нямецкія ды літоўскія ўлады. Вось гэтымі судовымі справамі й займалася Зоя Каўшанка: «Яшчэ ў мае абавязкі юрысконсульта ўваходзілі справы арыштаваных. Чарадой ішлі да нас заплаканыя жанчыны — жонкі, маткі, сёстры. Арыштаваных было мноства. Безь ніякай прычыны людзі траплялі ў вастрог, і, як звычайна, калі адбываюцца масавыя арышты, ня ведалі, за што яны арыштаваныя. Тут, згодна зь інструкцыяй праф. Іваноўскага, я мусіла правесьці сьледзтва ды, устанавіўшы невіноўнасьць чалавека, зьвярнуцца да немцаў з заявай аб яго звальненьні...» І далей: «Працаваць юрысконсультам (у сьціслым значэньні гэтага слова) пры БНК мне так і не давялося, бо калі шалее вайна, юрыдычная кансультацыя нікому непатрэбная. Мая праца зводзілася хутчэй да ролі абаронцы, і кіравацца трэба было ня пісанымі законамі, а чалавечнасьцю».

Зоя Каўшанка хадзіла да нямецкіх уладаў, даказвала невіноўнасьць асуджаных беларусаў, рыхтавала неабходныя дакуманты, вяла перамовы й найчасьцей чалавек, пра якога яна клапацілася, выходзіў на волю. А тымчасам на ейнага бацьку, каторы атрымаў прыход у Менскай епархіі (м. Крайск), быў зроблены данос гестапаўцам. (Ёсьць прыпушчэньне, што ён дапамагаў жыдам перахоўвацца ад гітлераўцаў і нават хаваў некага зь іх у сваім доме). Аляксандар Коўш быў арыштаваны й растраляны. Здарылася гэта хіба недзе ў сярэдзіне 1943 г.

Перад наступленьнем бальшавікоў Зоя Каўшанка выехала на Захад. Але дзякуючы неспрыяльным абставінам ці мо ўласнай неасьцярожнасьці яна трапіла ў рукі савецкіх уладаў і была рэпрэсаваная. Мусіла адпакутаваць доўгія гады ў паўночных канцлягерох. У Вільню вярнулася пасьля г. зв. «Хрушчоўскай адлігі». Зь вялікімі цяжкасьцямі дамаглася права жыць у сваёй уласнай хаце на Антокалі. У пачатку 60-ых пабралася шлюбам з таксама былым палітвязьнем Аляксандрам Кратовічам.

Каля ейнай хаткі быў невялікі гародчык, дзе спн. Зоя гадавала кветкі на продаж, рабіла таксама касмэтычны крэмы ды ласьёны. Ейны дамок на вул. Васарос стаўся адным зь мейсцаў, дзе зьбіраліся ацалелыя прадстаўнікі сьвядомай віленскай бел. інтэлігенцыі, «віленскія недабіткі», як яны самі называлі сябе. Тут бывалі Луцкевічы, Каралі, Шышэі, Падагелі, Анішчыкі. Сталася традыцыяй, што ў спн. Зоі усе зьбіраліся без спэцыяльных запросінаў на Вялікдзень. А на Вялікдзень у яе была заўсёды самая смачная ў Вільні «велікодная баба». Сама гаспадыня, невысокага росту, хударлявая, была з густам апраненая, з прыгожай фрызурай. Яна сардэчна прыймала гасьцей, умела стварыць добры настрой. Хата ейная была вельмі сьціплая, мэбля старая, на адной сьцяне вісеў невялікі абразок. Глядзячы здалёку, здавалася, што гэта акварэлька, аднак, прыглядзеўшыся, госьці бачылі, што гэта вышыты на палатне хоць і суворы, але прывабны, паўночны краявід. Гэта была работа гаспадыні... успамін з часоў паўночных лягероў. Была ў яе яшчэ й па-майстроўскі вышытая «Пагоня».

Калі ў канцы 80-ых гг. арганізаваліся першыя беларускія суполкі «Сябрына», а пасьля ТБК, Зоя Каўшанка бывала на ўсіх імпрэзах, часам пісала кароткія артыкулы для бел. старонкі ў «Эхо Литвы». На сьвяткаваньні ў 1994 г. 75-годзьдзя ВБГ ёй, як найстарэйшай выпускніцы, далі першай слова... Пасьля яна пісала: «Старыя Базылянскія муры. Характэрная доўгая брама. Траецкая царква з малюнкам на вонкавай сьцяне Трох Віленскіх Мучанікаў. Фарба на фрэсцы абліняла й аблупілася. Усё старэе ад самога зьяўленьня на сьвет. Не старэе толькі чалавечы дух і старанна перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне праз бібліятэкі, музэі, школы, кнігі. Дзядзінец з трох бакоў акружаны старымі будынкамі манастырскага тыпу. Узгыхаю паветра маіх юначых гадоў. З настроем нават свайго роду набожнасьці пераступаю парог мае alma mater. Колькі ж гэта прайшло гадоў, як для мяне тут празьвінеў апошні званок? Падлічваю: выходзіць роўна 65. Травень 1929-га (калі я трусілася перад выпускнымі экзаменамі) — травень 1994-га, калі я ўжо не дзяўчынка ў сіняй ваўнянай зь белым каўнерыкам і чорным фартушком школьнай сукенцы, а сівая бабулька. 65 гадоў нялёгкага, выбрукавана вострымі каменьнямі жыцьцёвага шляху, бо для тых, хто меў адвагу пранесьці праз усё жыцьцё таўро «беларус», лёс ня быў ласкавы, а менавіта быць беларусам і навучала нас «кузьня беларускага духу».

Сьціпласьць, глыбокі патрыятызм, рэлігійная талерантнасьць, — гэтыя рысы характару ўзгадавалі ў Зоі Каўшанкі бацькоўскі дом і ВБГ. Памерла яна 17 кастрычніка 1994 г., пахаваная на Эўфрасіньнеўскіх могілках у Вільні побач з магілай маці. У 1995 г. стараньнямі ТБК там быў пастаўлены помнік сям'і Каўшоў.

**Галіна Войцік**





Зоська Верас і Зоя Каўшанка

УСПАМІНЫ

# МАЛАХІТАВЫ ПЯРСЬЦЁНАК

*У Санкт-Пецярбурзе пражывае 88-гадовая пляменьніца Антона й Івана Луцкевічаў **Марыя Шабуня-Чэпелева**. Яна скончыла Менскі мэдычны інстыт. Прайшла выпрабаваньні ў сталінскім ГУЛАГу, пасьля каторага ёй было адмоўлена ў вяртаньні на Радзіму. Жыла й працавала ў Манчагорску, пад Мурманскам. Да яе ў 1944 г. прыехаў хворы на сухоты Стэфан Луцкевіч, вайсковы доктар, каторы, 2 гады адпрацаваўшы разам з Марыяй у Манчагорскай бальніцы, у 1947 г. памёр, там жа й пахаваны. Мяркую, што ўспаміны М. Шабуні-Чэпелевай пра братоў Луцкевічаў, якіх яна добра ведала й любіла, зацікавяць нашых чытачоў.*

**Галіна Войцік**

З Антонам мая маці (Эмілія Шабуня) вельмі сябравала, таму што ён, як старэйшы брат, забіраў яе на канікулы зь Беластоку дамоў. Ён часта бываў у нас на Садовай, 2, прыяжджаючы па сваіх справах у Менск. Мае першыя ўспаміны-сустрэчы зь дзядзькам Антонам прыпадаюць на 1917-18 гг. Мы зь сястрой гулялі зь ім у «зялёнае», і ён ніколі не прайграваў, казаў нам, што яму дапамагае малахітавы пярсьцёнак з пячаткай-гербам Луцкевічаў. Але аднойчы я яго «падлавіла»: дзядзька Антон пайшоў умывацца, зьняў пярсьцёнак і прайграў нам. За свой пройгрыш ён прыслаў нам кнігу «Эндрик Мендрик в Гонолулу».

Ад Антона часта прыходзілі зь Вільні лісты. Калі ён прыяжджаў, дык абавязкова прывозіў нешта маці й Стасі (дачцэ І. Луцкевіча ад першага шлюбу). Аднойчы ён прывёз ім тканіну на касцюмы, каторыя яны пашылі ў самым модным атэлье.

Памятаю гэткі эпізод. У нас у гасьцёўні над канапай, на якой заўсёды па прыездзе спаў Антон, вісела вялікая карціна ў цяжкой пазалочанай раме. На ёй былі намаляваныя два манахі каля чорнага крыжа. У дзяцінстве мы іх вельмі баяліся. Гэтую карціну пакінуў маме Іван, відавочна, вялікай каштоўнасьці яна для яго не ўяўляла. І вось на наступны пасьля ад'езду Антона дзень карціна ўпала вострым кутом на падушку, акурат на тое мейсца, дзе знаходзілася ягоная галава! Пазьней, падчас Айчыннай вайны, каб не памерці з голаду, карціну абмянялі на муку. Так манахі ўратавалі нас на некаторы час ад галадаваньня.

У далейшым бальшавіцкія ўлады забаранілі нам перапіску з Антонам, а маці й Стэфан (малодшы з братоў Луцкевічаў) пачалі кароткачасова арыштоўвацца для высьвятленьня кантактаў з Антонам. Часта ў кватэры праводзіліся перагрусы, пры адным забралі кнігу «Успамін пра Івана». (Кнігу гэтую, адразу пасьля сьмерці Івана, прынёс нам нейкі чалавек, паказаў у ёй Іванаў партрэт і запытаўся, ці ведаю я, хто гэта? Я адказала, што гэта мой дзядзька Іван). Забралі таксама падшыўку газэтаў «Наша Ніва», японскі кортык, палачкі з слановай косьці для ядзеньня рысу. Гэта ўсё належыла Івану.



Антон Луцкевіч

У 1919 г. Антон напісаў маці, што пабраўся шлюбам, і потым пачаў дасылаць фатаздымкі з жонкаю й дзецьмі. Мы зь сястрою (Янінай Каханоўскай) пасылалі яму ў адказ прыгожыя паштоўкі, намі намаляваныя. Маці, калі адпісвала Антону, рабіла прыпісачкі ягонай жонцы Зофі Абрамаўне.

У 1936 г., знаходзячыся ў камэры папярэдняга заключэньня ў Менскай турме, я выпадкова прачытала нататку ў газэце, што, маўляў, жонка вядомага «нацдэма» Антона Луцкевіча пакончыла жыцьцё самагубствам, не падзяляючы поглядаў мужа. Гэта, зразумела, было няпраўдаю!

Дзядзька Антон у сваіх лістах пісаў маці: «Бальшавікі лічаць мяне нацыяналістам, а ўрад Літвы — прыхільнікам бальшавікоў!»

Вось усё, што мне ўспомнілася з таго далёкага часу.

**Марыя Шабуня-Чэпелева**

# Пакт Молатава – Рыбэнтропа: гістарычная й палітычная ацэнка

*Працяг са старонкі 1*

рэкамэндавала правесьці перамовы паміж апазыцыяй і ўладамі. Мандат на перамовы ўключае тры пункты:

1. **Сродкі масавай інфармацыі.**
2. **Справядлівыя выбары.**
3. **Функцыі парляманту.**

Апазыцыя настойвае на нямногім, толькі на тым, каб два апошнія пункты разглядаліся разам. Бо інакш, калі самым непадкупным чынам выбраць сёньня ў Беларусі парлямант, ён ня будзе ня мець ніякай улады паводле г. зв. Канстытуцыі 96-га году, каторую не прызнае Эўропа, не прызнае АБСЭ. Аднак улада нашая хітрая, і калі выбары нават і адбудуцца, адбудзецца й легітымізацыя гэтай улады, г. зн. яна будзе ўзаконеная. Па сутнасьці адбудзецца стварэньне марыянэтачнага парляманту, каторы ня будзе мець ніякае заканадаўчае ўлады, што спаваўдзе рэальнае ўмацаваньне існуючай улады. На жаль, гэтага ніяк ня хоча зразумець місія АБСЭ.

Затрымка ж перамоўнага працэсу вельмі выгадная нашым апанэнтам, бо ў гэты час таварам фактычна стаў сувэрэнітэт Беларусі. Дзеля сваіх асабістых амбіцыяў, дзеля ўмацаваньня свайго становішча, наш былы прэзыдэнт, каторы працягвае знаходзіцца пры ўладзе, спасылаючыся на вынікі г. зв. «рэфэрэндуму», зацягвае перагаворны працэс і фактычна легітымізуецца з дапамогай заходніх дыпляматаў. Апроч закліканьняў цывілізаваны Захад да сёньня не зрабіў ніводнага кроку ў падтрымку дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі. Калі беларуская апазыцыя тытанічнымі высілкамі арганізоўвае нейкія акцыі пратэсту, дык менавіта Кансультатыўна-назіральная група АБСЭ абрынываe на нас шэраг папрокаў, а за ёй – і Захад. Рэжым жа йдзе на разгон дэманстрацыяў, на зьбіцьцё людзей, а апошнім часам ён пайшоў на зусім нябачаныя меры – у нас пачалі зьнікаць найбуйнейшыя апазыцыйныя палітыкі! Спачатку зьнік чалавек, каторы мог арганізаваць магутнае сілавое супрацьдзеяньне, былы Міністар унутраных справаў Захаранка. Калі ягоная жонка зьвярнулася ва ўсе дзяржаўныя інстанцыі, каб яго знайшлі, абвесьцілі росшук, завялі крымінальную справу, – нічога не было зроблена. Сказалі: «Он где-то на даче водку пьёт!» (Кажу тымі словамі, каторыя ў нас запраста ўжываюцца ў адыторыях такога ўзроўню). Перад Захаранкам бясьсьледна зьнікла былая старшыня Нацбанку РБ Віньнікава, знаходзячыся пад дамашнім арыштам (!). Сказалі: «Она сбежала то ли в Израиль, то ли ещё куда...» Я перакананы, што яе зьнішчылі фізычна. Рэжыму гэта выгаднае, бо зьніклыя зьяўляюцца сьведкамі ягоных чорных фінансавых махінацыяў, яны могуць арганізаваць яму супрацьдзеяньне. І вось, за дзень да Сэсіі Вярхоўнага Савету, бясьсьледна зьнік Выконваючы абавязкі Старшыні ВС Віктар Ганчар. Тут, паколькі заклінаньні заходніх дзяржаваў сталі занадта ўжо гучнымі, улады раптам аб'явілі, што яны пачынаюць росшук. Калі ж ёй паказалі неабвяргальныя сьведчаньні сілавога ўзяцьця гэтых людзей, яны абвесьцілі, што заводзіцца крымінальная справа аб забойстве зьніклага чатыры месяцы таму Захаранкі.

Я ўжо не кажу пра людзей, каторыя сядзяць у турме. Былы прэм'ер-міністар Чыгір пасаджаны за краты й фактычна абвінавачаньне яму не прад'яўленае. Былы міністар с/г таксама пасаджаны ў турму й абвінавачаньне яму прад'яўленае сьмехатворнае. Дэпутаты ВС, каторыя нават паводле Канстытуцыі 96-га г. захоўваюць свае правы, без дазволу парляманту пасаджаныя ў турму.

У гэты самы час Расея штогод сьпісвае зь Беларусі адмоўнае сальда гандлёвага балянсу (Беларусь штогод недаплочвае Расеі 800 млн. дал. за нафту), але атрымлівае ўзамен штогадовыя заходнія крэдыты. Фактычна ЭС, Эўропа імкнецца легітымізаваць наш рэжым і ўтрымліваe яго. Я тут разважаю як фізык, а не як палітоляг. Калі бяруцца грошы на падтрымку рэжыму з Расеі, а Захад дае гэтыя грошы Расеі для нечага іншага, дык фактычна ў мяне ўзьнікае думка, ці няма тут новага пакту Рыбэнтропа-Молатава? Ці няма тут свайго Прылажэньня, пра якое мы сёньня ня ведаем, і даведаемся толькі праз 50 гадоў?

Мы змагаемся з дыктатарскім рэжымам, мы робім усё, каб Беларусь стала на цывілізаваны шлях. Прэзыдэнт Адамкус сёньня сказаў, што краіны Прыбалтыкі былі затармажаныя ў сваім разьвіцьці на 50 гадоў у выніку пакта Рыбэнтропа-Молатава. На 200 гадоў затармажанае разьвіцьцё маёй краіны, як беларускай дзяржавы: спачатку была імпэрская, потым бальшавіцкая Расея. Мы ажылі на два-тры гады, аднак лёгка было насператварыць у зону камуністычнага рэваншу. Мы перакананыя, што абаронім годныя прынцыпы й вернем Беларусь на шлях дэмакратычнага разьвіцьця. Аднак перамога гэтая зацягнецца, калі да нас будуць ставіцца так, як сёньня, калі заходнія СМІ ў некаторых дачыненьнях будуць пераўтварацца ў прыдатак нашых дзяржаўных СМІ, кажучы што пануючы ў Беларусі рэжым падтрымліваe большасьць насельніцтва (гэта міф, гэта пустата, бо інакш бы рэжым пайшоў на перавыбары), калі заходнія СМІ будуць казаць, што бел. народ гэта такі народ, каторы заслугоўвае такога ўраду, які мае, калі яны не зразумеюць, што апазыцыя ў нашых умовах павінная выжываць, а потым ужо змагацца (бо, ня выжыўшы, нельга змагацца), калі мы ня здолеем пераадолець адукацыйны бар'ер (у Польшчы, напрыклад, з 81-га па 89 год мільён малады палякаў атрымаў адукацыю за мяжой: ад летніх школаў дэмакратыі да ўнівэрсытэтаў). Калі б Захад дапамог 250 тысячам нашага 10-мільённага насельніцтва (тая самая прапорцыя, што і ў Польшчы) атрымаць адукацыю за мяжой, мы б хутчэй справіліся з нашым звыродлівым рэжымам.



Скстрэча ў Брэсьце. Верасень 1939 г.

**Станіслаў Шушкевіч**

*Выступленьне на Міжнароднай канфэрэнцыі «Пакт Молатава –Рыбэнтропа. Сучаснасьць і будучыня дзяржаваў Балтыі». Вільня, 28 верасьня. (Пер. – А. М.).*

# Мамелюкі або прыгоды Гіля ў Беларусі

Хутар Вашунава – гэта ня толькі мая бацькоўская хата, дзе прайшло дзяцінства. Гэта для мяне:

*Кут ад маленства мне каханы…*
*Тут недзе пуп мой закапаны.*

Дзе б я ня быў, у Сыбіры ці ў Вільні, я заўсёды ў думках вяртаюся да цудоўнага куточка ў Беларусі, дзе нарадзіўся: у невялічкую вёсачку, хутчэй – засьценачак Вашунава, што месьціцца на Парфенаўшчыне ў 20 км ад Будслава.

Цяпер у маёй спадчыннай сядзібе створаны гісторыка-этнаграфічны музэй «Засьцянковая хатка», каторы зьяўляецца структурным падраздзяленьнем ТБМ Віленскага Краю. Тут жа, у музэі, сабраная багатая бібліятэчка «Крынічка», разьлічаная перадусім на мясцовую дзятву. Перад хатаю –капліца «Сьвятая сям'я», пастаўленыя тры крыжы. «Засьцянковая хатка» – моцны асяродак беларушчыны ў Докшыцкім раёне. Сюды йдуць людзі, тут праводзяцца набажэствы на роднай мове, адбываюцца фэсты з удзелам беларускіх, польскіх, літоўскіх мастацкіх калектываў. Тут пачуеш слова Божае, тут гучыць родная мова.

**26 верасьня, нядзеля**

Зь цяжкім рэчмяшком за плячыма й падарожнай валізкай, наладаванай кнігамі й рознымі іншымі рэчамі для «Засьцянковай хаткі», адправіўся я рана-раніцою на вакзал у Вільні. Хацеў у родным Вашунаве падрыхтавацца да Дзядоў. Увечары без аніякіх прыгодаў быў ужо каля родных пэнатаў:

*У зелені садка стаіць тут хата,*
*Дзе жыў даўней Пятрусь – мой тата.*
*Стаіць ягоная будова,*
*Нібы шляхцянка засьцянкова.*
*Бусьлянка над страхою роднай хаткі,*
*Як сымбаль дабрыні*
*й апекі Боскай Маткі…*

Зайшоў у хату:

*У хаце – шафа, ложак, стол,*
*услон і печка,*
*Нібыта ўтульнае гняздзечка.*
*– Дабрыдзень, родныя пэнаты!*
*Дабрыдзень, кнігі, экспанаты!*
*Дабрыдзень, куфар, скрыні, жорны,*
*І матчын чыгунок ад часу чорны!*

Першым чынам прыбраўся ў хаце. Павячэраў. Салодка заснуў. Нічога, здаецца, ня весьціла нядобрых падзеяў наступных дзён.

**27 верасьня, панядзелак**

Акурат у гэты дзень было праваслаўнае сьвята Узьвіжаньне. Я хоць і не праваслаўны, аднак імкнуўся патрапіць дамоў менавіта ў гэты дзень, каб паставіць перад музэем яшчэ адзін, трэці, крыж. Надвечар, пасьля адпаведнай работы, крыж быў пастаўлены.

**28 верасьня, аўторак**

Разам з Мяховічам Антонам і Вярэнькам Антонам на могілках ў Сьвірках цэлы дзень ўпарадкавалі магілы сваіх продкаў. Увечары пешкі пайшоў дамоў. За якіх 200 крокаў ад Вашунава мяне дагнаў самаход, у каторым ехаў старшыня мясцовага калгасу «Чырвоны сьцяг» Гірын ды галоўны калгасны аграном (прозьвішча ня ведаю). Машына рэзка спынілася, і гэтая двойка нечакана накінулася на мяне з крыкамі:

– Дакументы! Лабус! Літоўскі фашыст! Ты не павінен сюды прыязджаць! Мы тут гаспадары!

З гэткімі выкрыкамі пачалі мяне зьбіваць і запіхваць у машыну. Я неяк адбіўся ад нападаючых, адбег ад дарогі ў поле. Машына разьвярнулася й памчалася некуды ў бок в. Лайкова. Я па шляху дамоў зайшоў да майго суседа Мяховіча Антона, усё распавёў. Разам пайшлі да мяне.

Хвілінаў праз сорак каля «Засьцянковай хаткі» пачуўся скрыгат тармазоў. Праз хвілю пачалі ламіцца ў дзьверы, данёсься сакавіты расейскі мат, патрабаваньні, каб я неадкладна адчыніў хату. Я замест таго адключыў сьвятло, выкруціў пробкі з лічыльніка. На падворку раздаўся стрэл, пасьля чаго пачаўся сапраўдны штурм дзьвярэй «Засьцянковай хаткі». Як я хутка даведаўся, апрача названых ужо «мамелюкаў», у штурме ўдзельнічаў і мясцовы ўчастковы Кучыц. (Замест таго, каб абараняць такіх, як я, ад такіх, каторыя былі цяпер ягонымі саўдзельнікамі).

Пад напорам калгасных выкармашаў дзьверы ня вытрымалі й абрынуліся на падлогу, хаця былі даволі моцныя. На дзьвярох здаўна віселі абразкі Маці Боскай Фацімскай ды Папы Рымскага Яна II. Па гэтых абразках прайшліся боты штурмавікоў. Першыя пабоі атрымаў Мяховіч. Па некаторым часе, на гарышчы, знайшлі й мяне. Пачалі біць ляжачага насцакамі. Вывалаклі на вуліцу ў чым быў. З пабоямі запіхнулі ў машыну (УАЗ). Павезьлі невядома куды. Я згубіў акуляры, кепска бачыў, а мяне білі, білі й білі… Потым вяроўкай пачалі душыць. Я не даваўся. Вяроўка лопнула.

Доўга кружылі па ваколіцы, па глухіх лясных дарогах. Вывадзілі з машыны, білі й крычалі, што «застрэляць і закапаюць». Граззіліся спаліць маю хату, давезьці да граніцы й выкінуць. Нарэшце, каб замясьці сьляды, пастанавілі накачаць мяне гарэлкай. Я не паддаўся на правакацыю…

Гэтак, усю дарогу з пабоямі, давезьлі мяне нарэшце да Докшыцаў. Перад Докшыцамі папярэдзілі, што ўсё адно заб'юць, калі каму раскажу праўду. І ўвесь час білі. Асабліва шчыраваў Гірын. Я быў увесь у крыві. Крывёю была залітая й машына.

Прывезьлі на экспэртызу (нібыта я вадзіцель!) у бальніцу хуткай дапамогі, акрываўленага. Але й тут мае каты пачувалі сябе гаспадарамі. Дактары рабілі выгляд, што не разумеюць, што здарылася. Сярод іх я пазнаў тых, хто часта прыяжджае ў Вашунава, але не ў музэй, а ў дом непадалёку, дзе старшыня Гірын арганізаваў сапраўдны прытон для забаваў мяйсцовых «вэртыкальшчыкаў», дзе творацца іхнія п'яныя оргіі. Мяне прымусілі дзьмуць у трубку. Зразумела, рэакцыя была «палажыцельная», як і трэба калгаснаму начальству.

Напрыканцы гэтай зьнеуважальнай працэдуры я папрасіў у «дактароў» пазваніць па тэлефоне да сястры ў Круляўшчызну. Дазволілі. Набраў нумар тэлефону й хуценька паведаміў, дзе знаходжуся, што арыштаваны, што хата разгромленая, што ўвесь зьбіты. Участковы Кучыц вырваў трубку ў мяне з рук. Вывелі на калідор і зноў пачалі зьбіваць, каб не казаў лішняга.

Нанова запіхнуўшы мяне ў машыну, калгасная «тройка» павязьла мяне ў РАУС (Раённае аддзяленьне ўнутраных справаў). Па дарозе непарыўна білі, і толькі калі я (наўмысна) падымаў крык, давалі невялічкую перадышку.

У РАУС, зрабіўшы сякія-такія фармальнасьці, мяне абшукалі, забралі грошы, рэмень, павялі ў камэру. Кучыц кінуў сваім саслужыўцам гэткія словы: «Пасадзіце яго да ўгалоўнікаў, або да «галубых»!» Я патрапіў у камэру N 2, дзе знаходзілася ўжо 7 чалавек.

**29 верасьня, серада**

Раніцою пяцёра маіх сукамэрнікаў вывелі на прыборачныя работы. Нас засталося трое. Разгаварыліся. Адзін з маіх суразмоўнікаў, Войцік Раман, аказаўся маім земляком, з в. Грынеўшчыны, што непадалёк ст. Параф'янава. Яму далі 10 сутак, бо ён пасьмеў сказаць нешта супраць участковага Кучыца, каторы перад тым яго зьбіў на горкі яблык: ногі ў Рамана ад пабояў былі апухлыя, аднак ніхто яму не аказваў мэддапамогі й небарака моцна пакутаваў.

Пасьля 10.00 мяне павялі ў суд. Там сустрэў сястру Рамуальду, каторая ўжо пасьпела зьезьдзіць у «Засьцянковую хатку», паклапаціцца, каб не рабавалі. Убачыўшы мяне, яна страсянулася й заплакала. Дала мне паціць сьвянцонай вады. У памяшканьні суда знаходзіліся й мае ўчарашнія мучыцелі, а цяпер «сьведкі» (!): Гірын і гал. аграном. А на суд мяне прывёў той самы Кучыц, каторы і зараз, па дарозе, пагражаў мне й стараўся заехаць па твары.

«Тройка» доўга вадзіла мяне па калідоры суда. Шукалі такога судзьдзю, каторы асудзіў бы мяне так, як ім было трэба. Адчувалася, што й сярод судзьдзяў былі людзі, якія разумелі, што не мяне трэба судзіць, а маіх «сьведкаў». Нарэшце, завялі на 3 паверх у раскошлівы габінэт судзьдзі Аршынавай, якая адразу ж сустрэла мяне непрыхільна, бо я, без акуляраў, ненаўмысна наступіў на шыкоўны дыван на падлозе. Гірын і К° пачувалі сябе ў Аршынавай вальготна: яна не аднаго разу бывала ў Вашунава на розных калгасных «пікніках»…

Гэта быў ня суд, а судзілішча (у свойчас я быў народным засядацелем і колечы-што ведаю з судовай справы). Мне адмовілі (нават як іншаземцу) у адвакаце. Я папрасіў зьвязацца з Пасольствам Літвы ў Менску, але атрымаў адмову. Я папрасіў, каб у судзе прысутнічаў сапраўдны мой сьведка Мяховіч Антон, але яго не прывезьлі. Аршынава нават ня слухала мае тлумачэньні, груба забараніла мне задаваць пытаньні «сьведкам» на беларускай мове, заявіўшы, што «у нас делопроизводство ведётся на русском языке».

Калі «сьведкі» заявілі, што яны «выконвалі ўказ Прэзыдэнта» (?), Аршынава кінула ў мой адрас: «Нечего к нам приезжать и без дела болтаться! 7 суток!» Я хацеў запярэчыць, але ўчастковы Кучыц хуценька вывеў мяне з габінэта Аршынавай.

Забягаючы наперад, хачу адзначыць, што, як потым высьветлілася, Аршынава запісала, што я нібыта прызнаў сваю віну. І яшчэ. Ад сваіх сукамэрнікаў даведаўся, што яна ў парушэньне закону карыстаецца з працы «сутачнікаў» у сваёй сядзібе на розных гаспадарчых работах.

Пасьля «суду» Гірын і Кучыц зноў прыгразілі: «Приедзеш яшчэ, дык



калі не прыб'ём – атрымаеш ужо 15 сутак, і хату спалім!» І гэта яны нахабна казалі ў прысутнасьці іншых міліцыянераў! Мяне завялі ў ранейшую камэру, дзе я, бяз права выбару, павінен быў адседзець сваіх 7 сутак.

На абед я атрымаў пайку хлеба таўшчынёю ў 2 пальцы, кружку сададкаватага чаю ды міску баланды (капусты). Вечарам і наступнай раніцы – толькі пайка ды «чай». Пачалося маё жыцьцё ў камэры N 2. У мяне не было ні курткі ні шапкі, ноччу было холадна. Бліжэй да ночы ў камэры засталіся толькі я й інвалід Раман Войцік: аднаго выпусьцілі, а пяцёх перавялі ў камэру N 3, дзе было цяплей. Позна ноччу нам падсадзілі «буйнага» па прозьвішчу Навіцкі, каторы «буйстваваў» усю ноч. Раніцою Навіцкага выпусьцілі.

**30 верасьня, чацьвер**

Раніцою ў чацьвер я застаўся адзін: Войціка таксама некуды перавялі. Відаць, гэткім чынам міліцыянты хацелі зламіць маю волю або не хацелі, каб я расказваў іншым пра ўсё, што са мною здарылася. Я папрасіў, каб мяне перавялі, дзе цяплей, аднак мне адмовілі ў гэтым. Камэрнае акно было забітае бляхай з 20-цю дзіркамі для вентыляцыі, чаму ў камэры й было так холадна.

Аднак ужо пад абед мяне павялі да пракурора. Пракурор пачаў быў гутарыць са мной, а потым сказаў, каб я напісаў «тлумачальную» – ня меў часу. Мне далі ручку й аркуш, і я напісаў тую «тлумачальную» ў сваёй камэры, расказаў у ёй пра ўсе свае «прыгоды». Аддаў дыжурнаму. Як высьветлілася потым, «тлумачальная» мая да пракурора не дайшла. («Тлумачальную» пісаў па-беларуску).

Увечары выклікаў дыжурны й сказаў, што я, аказваецца, знаходжуся не ў турме, а ў «гасьцініцы» й за яе трэба плаціць, 200 тыс. бел. руб. у суткі. У мяне міліцыянты адабралі 400 тыс. бел. руб., дык дыжурны паказаў мне квіток і патлумачыў, што за 2 сутак за мяне ўжо аплочана (!). Гэтак я застаўся без апошніх грошай.

**1 кастрычніка, пятніца**

У 8.00 раніцы ў камэру зайшоў Кучыц і з ухмылкай сказаў: «Так, здесь Гиль! Всё понятно!» – ён у гэты дзень быў дыжурны.

А тымчасам падзеі разгортваліся так. Сястра з памочнікам пракурора паехалі ў Вашунава, дзе быў праведзены агляд маёй пацярпелай хаты ды апрошаны сапраўдны сьведка Мяховіч. Мяне павязьлі на мэдэкспэртызу ў Глыбокае. Экспэрт даў заключэньне: «Лёгкие (!) телесные повреждения без расстройства здоровья». Па прыезьдзе з Глыбокага мяне спаткала сястра й перадала куртку й шапку. Памочнік пракурора выклікала мяне ў пракуратуру й я ёй зноў расказаў, як усё было. Здавалася, усё складаецца на маю карысьць. Па абедзе мяне зноў выклікалі ў суд да Аршынавай, на перагляд справы, бо пракурор апратэставаў папярэдняе рашэньне суда. Гэта, канечне, быў удар для Аршынавай.

Суд быў кароткі. Памочнік пракурора:

– Вас действительно били?

– Так.

– Как чувствуете в изоляции?

– Нармальна.

Аршынава:

– Прокуратура ходатайствует о смягчении наказания. Сколько уже отсидели?

– Трое сутак.

– Тогда объявляю вместо 7 суток 4 и Вас выпускают. Сегодня.

У РАУС мне аддалі шнуркі, ключы й рэмень. І я – на свабодзе! Пешкі йду дамоў – гэта 12 км, бо грошай на аўтобус няма. У в. Сьвіркі сустракаю земляка, каторы йдуць на малебен. Успамінаю, што згодна даўняй традыцыі яны сёньня з хаты ў хату насілі фігуркі Маткі Божай Фацімскай і маліліся. Можа гэта дапамагло мне?

*Маці Божая з Фацімы,*
*Дай нам добрую параду,*
*Адхіні бяду і здраду*
*Ад мяне, Алеся й Дзімы, –*
*Ад усёй маёй радзіны,*
*Ад усёй маёй Радзімы.*

Юры Гіль

# Лінгвацыд або выцісьненьне мовы

***Шаноўная рэдакцыя! Дасылаю вам сэрыю артыкулаў па актуальнай тэме «Зьнішчэньне бел. мовы, ягоныя спосабы». У артыкулах асьвятляюцца наступныя спосабы выцісьненьня з ужытку нашай мовы ў СССР і РБ: праз асьвету, праз «выбар» мовы навучаньня бяз выбару, праз скарачэньне накладаў выданьняў, праз дэмаграфічную палітыку, праз зьнішчэньне мовазнаўцаў, праз стварэньне «новамовы» («імпэрскай мовы»). У сваіх артыкулах я хачу даць пэўны мінімум ведаў для сьведамага выпрацаваньня нацыянальнага моўнага сьветапогляду – сыстэмы ведаў пра нацыю й мову, а ня проста сумы выпадковых дадзеных пра іх. Пры складаньні артыкулаў аўтар улічыў досьвед В. Іванышына ды Я. Радэвіча-Ваныцькага, якія склалі кнігу «Мова і нація. Тэзи про місце і роль мови в національному відродженні України» (Дрогобич, 1994).***

**1. Мова й чалавецтва**

Чалавек стаў сапраўды чалавекам тады, калі ў жыцьці ягоных продкаў адбылася першая інфармацыйная рэвалюцыя, — тады, калі ўзьнікла мова для інфармацыйнай сувязі між членамі грамадзтва. На шляху прагрэсу чалавецтва знайшло шмат спосабаў абмену інфармацыяй: транспартную сыгналізацыю, сымболіку навукі, спартыўнага судзейства й г. д. Аднак мова працягвае займаць сярод іх вядучае месца. Усе пазамоўныя знакавыя сыстэмы вытворныя з мовы. Безь яе немагчыма было б іх стварыць, вывучаць, выкарыстоўваць.

Чалавек на тое й чалавек, каб цікавіцца ня толькі адным тым, што дапамагае задавальняць штодзённыя матар'яльныя патрэбы. Яго цікавіць і тое, якім чынам ён мае зносіны зь іншымі людзьмі, якое месца ён займае сярод да сябе падобных у грамадзтве.

Вышэйшай формай арганізацыі грамадзтва, якую чалавецтва выпрацавала, ёсьць НАЦЫЯ. Нацыя стварае ўмовы для паўнейшага раскрыцьця жыцьцёвых сілаў і магчымасьцяў асобнага чалавека. Наўрад ці можна сабе ўявіць Сэрвантаса, Гойю або Альбеніса без гішпанскай нацыі або гішпанскую нацыю бязь іх?

Як і кожная людзкая супольнасьць, нацыя ня можа сфармавацца ані бяз зносінаў ейных членаў, ані без зьберажэньня імі супольнай памяці аб мінулым, ані без ІНДЭТЫФІКАЦЫІ — пачуцьця прыналежнасьці розных людзей да гэтай супольнасьці. Унівэрсальнымі спосабамі зьдзяйсьненьня ўсяго пералічанага ёсьць агульная мова й агульная гісторыя: яны забясьпечваюць еднасьць, функцыяваньне й разьвіцьцё нацыянальнага арганізму ў прасторы й часе.

Праблемы мовы цікавяць чалавецтва здавён. Людзі шанавалі Слова й Мову. Яны разумелі, што яны адрозьніваюць людзей ад жывёлы. Апостал Іаан пачынаў сваё Эвангельле так: «Калі я малюся ў незнаёмай мове, дык дух мой моліцца, але розум мой астаецца бясплодным» (І КАР 14.14). Невыпадкова сваёй роднай, знаёмай з маленства мове ў нармальным грамадзтве надаецца вялікае значэньне, бо менавіта «наша мова зь яе блізка тысячалетняй гісторыяй... зьяўляецца аднэй з галоўнейшых асноў нашай нацыянальнай індывідуальнасьці» — так пісаў у 1926 г. адзін з бацькоў бел. адраджэньня В. Ластоўскі.

Невыпадкова пытаньні мовы шырока абмяркоўваюцца ў бел. грамадзкім друку: ва ўмовах афіцыйнага згортваньня ўжываньня бел. мовы ў сродках масавай інфармацыі, у навучаньні, у справаводзтве й г. д. Камусьці можа здацца, што выцісьненьне бел. мовы з ужытку гэта зьява толькі сёньняшняя, часовая й нават вынік натуральнага працэсу. Мне хочацца прасачыць вытокі гэтага складанага пытаньня, паказаць, што сёньняшнія моўныя супярэчнасьці ў Беларусі ляжаць значна глыбей, чым нам здаецца.

Для кожнага беларуса сёньня ёсьць натуральны шлях. І ёсьць магчымасьць ісьці па ім або збочыць. Збочыць вельмі лёгка. Ісьці натуральным шляхам таксама лёгка. Усё вырашае асабісты выбар. Ёсьць выбар сьведамага беларуса: размаўляць сваёй прыроднай мовай, ведаць гістарычнае мінулае свайго народу. І ёсьць выбар хісткай асобы: зьнешне прыйняць чужую мову, нібыта сваю, ведаць чужую гісторыю замест сваёй. Трэцяга не дадзена.

Лічу патрэбнай самую элемэнтарную тэарытычную й мэтадычную падрыхтоўку кожнага, каму неабыякавы лёс роднай мовы. Бо непадрыхтаванаму горш. Яго лягчэй падмануць. Яму цяжэй зразумець прычыны зьяваў і таму прадбачыць вынікі дзеяньняў. Таго, хто не задумваецца над моўнымі пытаньнямі, над пытаньнямі айчыннай гісторыі, лягчэй пазбавіць нацыянальнай сьведамасьці.

Размову ж варта пачаць з пытаньня пра зьнішчэньне мовы або ЛІНГВАЦЫДЗЕ.

**2. Што такое лінгвацыд**

Сьвядомае, мэтанакіраванае зьнішчэньне асобнай мовы як галоўнай азнакі этнасу (народнасьці, нацыі) называецца ЛІНГВАЦЫДАМ (ад лац. словаў «лінгва» — «мова» й «цэдэрэ» — «забіваць»). Зьнішчэньне гэтае скіраванае перадусім супраць пісьмовай формы мовы.

Лінгвацыд адзін з галоўных спосабаў ліквідацыі этнасу, як асаблівай культурна-гістарычнай супольнасьці. Ягоная мэта — дэнацыяналізаваць прадстаўнікоў этнасу, зьнішчыць у іх пачуцьцё прыналежнасьці да свайго народу. Зразумела, падобная ліквідацыя этнасу не зьяўляецца фізычнай.

Лінгвацыд гэта галоўная перадумова масавай дэнацыяналізацыі. Калісьці султаны Эгіпту куплялі на нявольніцкіх рынках Усходу падлеткаў цюркскага, чаркескага, грузінскага паходжаньня й фармавалі зь іх гвардыю «мамелюкаў». Гэтая гвардыя потым захапіла ўладу і кіравала краінай ажно да паходу туды Напалеона Банапарта. Мамелюкі забыліся на сваю родную мову й сталіся большымі арабамі, чым самыя арабы.

Асманскія туркі забіралі падлеткаў з падпарадкаваных імі хрысьціянскіх (а потым і іншых) народаў у «янычары» («новае войска») ды перараблялі ў сапраўдных туркаўмусульманаў.

Галоўнай умовай стварэньня мамелюкаў і янычараў было зьнішчэньне іхнае роднае мовы (лінгвацыд) і памяці пра этнічнае мінулае (для гэтага працэсу я прапаную слова МНЕМАЦЫД — ад грэц. слова «мнемон» — «памяць» і ўжо знаёмага — «цэдэрэ»). Безь лінгвацыду й мнемацыду немагчымая страта людзьмі адчуваньня сваёй этнічнай (нацыянальнай) прыналежнасьці, безь якога, у сваю чаргу, немагчымая АСЫМІЛЯЦЫЯ — паглынаньне аднаго этнасу другім. Лінгвацыд і мнемацыд адбываюцца ва ўсіх без выключэньня шматнацыянальных дзяржавах, паколькі там немінуча сутыкаюцца пануючы й падпарадкаваныя яму этнасы. Як будзе называць сябе пануючы этнас — «брацкі» ці неяк інакш — усё роўна: абое рабое. Ані свае сутнасьці, ані канчатковай мэты лінгвацыду і мнемацыду ня зьменьвае тое, што іхныя формы могуць быць адкрытымі й прыхаванымі, жорсткімі й памяркоўнымі.

Хрысьціянская, галоўным чынам грэцкамоўная насельніцтва паўвострава Малая Азія, напрацягу некалькіх стагодзьдзяў панаваньня Асманскай Імпэры зьбольшага паступова пераняла іслам і турэцкую мову. Тых, хто мацней трымаўся грэцкай мовы й хрысьціянскага веравызнаньня, паступовы выцісьнялі й нават зьнішчалі і ўрэшце цалкам выселілі ў выніку грэцка-турэцкай вайны 1921-23 гг. Зараз тэрыторыя Турцыі найбольш заселеная нашчадкамі колішніх грэкаў, каторыя былі дэнацыяналізаваныя ды асыміляваныя туркамі паводле паходжаньня.

Што да бел. мовы, дык лінгвацыд у дачыненьні да яе таксама мае даўнюю традыцыю. Ён вядзецца рознымі спосабамі. «Рупліўцы» на ніве асыміляцыі беларусаў добра ведаюць: калі няма мовы, няма й этнасу, народу, нацыі. Вось чаму адным з кірункаў дзейнасьці нашых айчынных асымілятараў была й застаецца забарона мовы.

*Працяг у наступным нумары*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Дэмакратыя – беларускі варыянт

*Заканчэньне. Пачатак у N 26.*

**У тэзісах дакладу «Стаўленьне шматпартыйнасці ў Рэспубліцы Беларусь: практыка і праблемы» спадар Н. А. Новік сцьвярджае: «У шматпартыйнай сістэме, на наш погляд, няма і не павінна быць карлікавых партый ...» І далей: «Таму перарэгістрацыя партый з тысячным яе лікам, каторая праходзіць цяпер у Мін'юсце рэспублікі – гэта праблема самой партыі, яе аўтарытэту, а не ўшчамленне правоў малых груп на ўдзел у палітычным жыцці».**

**Ніяк ня могуць зразумець погляды сп. Новіка ў Шатляндыі, дзе дэмакратычная традыцыі йснуюць намнога больш стагодзьдзя. Там, каб зарэгістраваць партыю, дастаткова 10 подпісаў жыхароў у ейную падтрымку – і займайся сабе палітычнай дзейнасьцю! Прынамсі, хай толькі паспрабуюць СМІ ушчаміць правы гэтай партыі на інфармацыю ейных поглядаў. Ім гэта абыйдзецца вельмі дорага. Ці ў той жа Швэцыі, дзе самая маленькая грамадзкая арганізацыя імкнецца прайсьці рэгістрацыю. У гэтым выпадку ейная грамадзкая дзейнасьць субсыдуецца з бюджэта дзяржавы.**

**І гэта вельмі лягічна для дэмакратычнага грамадзтва. Яно разумее, што самае маленькае грамадзкае пачынаньне трэба ўсялякім чынам падтрымліваць й песьціць, бо яно можа даць грамадзтву вялікую карысьць. Глупства, пасадзіўшы сёньня яблыню, заўтра яе сьсекчы, таму што на ёй няма пладоў.**

**Для беларускай дэмакратыі гэта незразумела ці... ёй непатрэбныя плады?**

**Беларуская рэспубліканская партыя (БРП) з моманту свайго ўтварэньня ў 1994 г. усьведамляла, што сапраўдныя дэмакратычныя сілы ў Беларусі слабыя й пануючае чынавецтва зь імі лёгка расправіцца. Партыя разумела, што штампы накшталт «запусцім заводы, рынкачны сацыялізм, аб'яднаньне з Расеяй, аб'яднаньне славянаў» – разьлічаныя на сацыяльную неадукаванасьць людзей, антыгуманныя й вядуць краіну да катастрофы, нягледзячы на самыя спрыяльныя аб'ектыўныя ўмовы ейнага разьвіцьця: геапалітычныя, прыродныя, зямельныя багацьці, працалюбства беларускай нацыі. Усё гэта зводзіцца да нуля абсалютнай сацыяльнай, а, значыць, і палітычнай неадукаванасьцю насельніцтва, манапольным панаваньнем камуністычнай ідэалёгіі на бытавым, дзяржаўным і нават на навуковым узроўнях. Таму першапачатковай працай БРП была й застаецца праца пад'ёму сацыяльнай адукацыі беларускага народу. Партыя сканцэнтравала свой вялікі сацыяльны патэнцыял на тэарэтычных дасьледаваньнях, вынікі якіх маглі б стаць навукова абгрунтаванай базай стабільнага й паступовага разьвіцьця беларускай дзяржавы. І на сёньня БПР, адзіная зь беларускіх партыяў, прапануе беларускаму грамадзтву тэарэтычна абгрунтаваную ідэалёгію сацыяльнай гармоніі ў процівагу манапольна пануючай і ўзмоцнена рэанімаванай у Беларусі камуністычнай ідэалёгіі. Сутнасьць ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі адлюстроўваецца наступнымі тэзамі:**

**1. Сям'я – базавае зьвяно нацыі, носьбіт і ўзнаўляльнік ейнага генафонду, галоўны захавальнік, стваральнік і спажывец нацыянальных багацьцяў.**

**2. Нацыя – базавая ячэйка тэхналягічнай цывілізацыі, ейны падмурак, разбурэньне якога вядзе да дэградацыі й разбурэньня цывілізацыі.**

**3. Гарманічнае разьвіцьцё нацыі магчымае толькі пад кіраўніцтвам сацыяльнай групы ўласьнікаў (але не чыноўнікаў!) ва ўмовах антыманапольных законаў.**

**4. Раўнапраўны саюз свабодных нацыяў (ні ў якім разе не дзяржавы народаў!) на аснове тэхналягічнай інтэграцыі (не асыміляцыі, не экспансіі!) ёсьць аснова стратэгіі дасягненьня гармоніі і ўстойлівага разьвіцьця цывілізацыі.**

**Гэтыя тэзы простыя й даступныя разуменьню шырокага грамадзтва. БРП упэўненая, што прагрэсыўнае разьвіцьцё Беларусі магчымае толькі на высноне прапанаванай ідэалёгіі. Яна выгадная ўсёй сусьветнай супольнасьці й непрымальная толькі пануючаму чынавецтву, таму што кладзе канец ягонаму панаваньню. БРП прапануе правесьці шырокую дыскусію ва ўсіх відах СМІ з удзелам усіх палітычных партыяў, шырокай грамадзкасьці, усіх ідэалягічных дзяржаўных інстытутаў аб карысьці прапанаванай ідэалёгіі замест перарэгістрацыі. Дыскусія будзе садзейнічаць актывізацыі, росту сацыяльнай адукацыі грамадзянаў Беларусі, досьведу дэмакратычных прынцыпаў работы СМІ з грамадзкімі арганізацыямі незалежна ад колькасьці іхніх членаў.**

**Перарэгістрацыя ёсьць мэтанакіраванае, сьвядомае парушэньне правоў чалавека, правоў палітычных партыяў, імкненьне паставіць іх у стан пакорлівага выкананьня чыноўнічай казуістыкі.**

**БРП, каторая заявіла, што яна лічыць сябе пераемніцай дэмакратычных традыцыяў, існуючых на тэрыторыях беларускага этнасу, не можа парушыць свае прынцыпы й прыстасоўваць Канстытуцыю РБ для новай «кіруючай і напраўляючай сілы беларускага грамадзтва». Чым усё гэта закончыцца – вядома.**

*Сустаршыня БРП* **Валеры Арцішэўскі**

*27 лістапада спаўняюцца 79-ыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну, аднаго з самых слаўных эпізодаў збройнага змаганьня бел. народу за вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць Бацькаўшчыны. Сябры рэдакцыі віншуюць бел. патрыётаў ва ўсіх краінах сьвету з гэтай знамянальнай датаю! А ніжэй зьмяшчаем цудоўную паэмку **Юрыя Весялкоўскага** з Англіі «На ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну» зь ягонай, падрыхтаванай да друку, паэтычнай кнігі «Каляды на чужыне».*

# НА ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

паэмка

Пабачыў не адзін паход
На сваіх землях наш народ,
Шмат зьведаў гора і бяды
У прамінулыя гады.

Татары, швэды, крыжакі,
Напалеонавы палкі
Уздоўж і ўпоперак ішлі,
Агонь і сьмерць з сабой вялі.

А тут суседзі з двух бакоў
Сваіх направілі арлоў
На наш абшар, каб хіжакі
Скублі нас горш, чым крыжакі.

І так душылі празь вякі
Культуру й веру палякі,
А рускі, наш «старэйшы брат»,
Усім суседзям быў ён кат.

А мела Случчына вайскоўцаў,
Адданых справе урадоўцаў,
Дый людзі з боку не стаялі
І чым маглі дапамагалі.

Стварыліся палкі, брыгады,
І случчакі гатовы, рады
За зброю ўзяцца, каб змагацца
І лепшай долі дамагацца.

Застракаталі кулямёты,
Пайшлі на бой паўстанцаў роты.
І так змаганьне пачалося
І многа дзён яно вялося.

Шмат злыдняў палягло чырвоных,
І хоць сыйшліся не на роўных,
Затое жыў запал, уздым,
Нястрашны стаў агонь і дым.

Пра посьпех наш і перамогі
Ёсьць сьведчаньняў даволі многа:



II

Сямнаццаты наскочыў год,
І Ленін крыкнуў ва ўвесь рот
Народу нашаму з Крамля:
«Свабода, роўнасьць і зямля!»

А пан Пілсудзкі зь Вільні, зь Менску
Глядзеў, як ліс, у бок Смаленску
І беларускаму народу
Таксама баіў пра свабоду.

Ды словы іх былі маною,
На хлуса хлус пайшоў вайною,
Каб высьветліць адну дэталь:
Лях беларус ёсьць ці маскаль?

Так чужакі паміж сабою
Ня раз хапаліся за зброю,
Пакуль ня даў канец інтрызе
Ганебны пакт падзелу ў Рызе.

І гэтак у дваццатым годзе
Два акупанты ў ладзе-згодзе
Зямельку нашу падзялілі,
Што абяцалі – ўсё забылі.

III

Ды вось на зьезьдзе Слуцкай Рады
Паўсталі гэткія загады:
«Гэй, беларус, ратуй Краіну
У ліхамысную гадзіну!»

Байцы з варожых нам палкоў
Ішлі ў рады да случчакоў.

Хоць случчакі стаялі цьвёрда –
Пад націскам чырвоных ордаў
Усё ж патроху адступалі
І родны кут свой пакідалі.

А іншыя дык засталіся
І камуністам не здаліся,
Свайго аружжа не злажылі
І партызанамі хадзілі.

Шчэ доўга па-за Лань-ракою
Чэкістам не было спакою,
Што на герояў палявалі
І іх магілы памнажалі...

IV

Гісторыя ў свае аналы
Імёнаў многа запісала
Тых случчакоў, хто мужна біўся
І ад нашэсьця бараніўся.

Зямля іх змочана крывёю,
Аплакана жанчын сьлязою.
Народ ня зносіць прыніжэньня
І зноў рыхтуе вызваленьне.

Мільгае часу карагод,
Ды згадваем мы кожны год
Пра мужных вояў і жанчын –
Пра слаўны Слуцкі Збройны Чын!

## Мы, жыхары Полаччыны,

сем'і Юшчанкі Галіны, Фадзеевай Алены, Карабковай Вольгі, Янушонак Ніны, шчыра дзячым айцу Міхасю Бурносу й ягоным прыхаджанам з далёкай Аўстраліі за матар'яльную дапамогу, у якой мы мелі вельмі вялікую патрэбу. Дзякуй вам, добрыя суайчыньнікі, за ўвагу й клопат пра нас.

*верасень, 99 г.*

## «Вэртыкаль» пад подзьмухам ветру

Сёньня, сустракаючы па раніцах чынавецкі люд, які сьпяшаецца на працу, заўважаеш у ягоным патоку нямала знаёмых твараў. Як і 5 гадоў таму, яны па-ранейшаму «восседают» у нашых мяйсцовых «Белых дамах», часам мяняючыся адзін з адным крэсламі й габінэтамі. Каму не пашанцавала — дык гэта першым асобам у абласным кіраўніцтве. Іхны кадравы склад прэзыдэнт абнавіў пагалоўна. (Трэба ж выконваць перадвыбарчыя абяцаньні!). А вось пра так і ненароджаны знакаміты ўказ аб 24-ох гадзінах для звальненьня нядбалых чынушаў і масавую чыстку дзяржапарата ўжо ніхто не згадвае. Дый навошта? «Вэртыкальшчыкі» — людзі наогул паднявольныя, каторыя стаяць на «государевой» службе, ад іх урэшце рэшт мала што залежыць. У тым сэньсе, што сыстэма нівэлюе іхнія погляды й жыцьцёвыя пазыцыі, змушаючы кожнага разу «браць пад казырок», пакорліва выконваючы любыя ўказаньні «згары». Мяйсцовыя чыноўнікі ня маюць права захоўваць нават бачнасьць нэўтралітэту, калі раптам акажыцца, што наперадзе чарговая палітычная кампанія. Але што прыгнятае больш за ўсё, дык гэта калі бачыш і ведаеш: вось ён, знаёмы дзяржслужачы, яшчэ ўчора хадзіў у зацятых суперніках «усенародна абранага», а сёньня па-рабску й аддана выцягваецца ў струнку, гатовы зь пенай даказваць кожнаму, як пашанцавала краіне, што ў яе гэткі лідар. Пра тое, наколькі шчырыя гэтыя праявы вернападданьніцкіх пачуцьцяў, лепш памаўчаць. Таму што ў неафіцыйных, чыста будзёных умовах ад тых самых чыноўнікаў даводзіцца чуць такія эпітэты ў адрас «бацькі», што язык не павароч-ваецца іх паўтарыць.

Іншы раз думаеш: ну, дажывем мы калі-небудзь да новых выбараў. Што далей? Далібог, здадуць Аляксандра Рыгоравіча. Абавязкова здадуць яго цяперашнія нібыта аднадумцы, каторыя працуюць ва ўладных і дзяржаўных структурах. Гэта сёньня, ва ўгоду йснуючаму аўтарытарнаму рэжыму, можна да мейсца й не да мейсца цытаваць Аляксандра Рыгоравіча, як калісьці цытавалі «мудрыя ўказаньні дарагога Леаніда Ільіча». А заўтра, цалкам верагодна, усьлед сыходзячаму прэзыдэнту паляцяць каменьні цяжкіх абвінавачаньняў. Бадай, ніколі раней за сваю службовую кар'еру «вэртыкальшчыкі» не пачувалі сябе гэтак прыніжана й зацкавана, як ця-

# Косава – інтэгральны

Чалавек, атуляючае яго асяродзьдзе ўтвараюць замкнёную сацыяльна-біялягічную сыстэму, якая разьвіваецца згодна адпаведных законаў прыроды. Парушэньне законаў прыводзіць да разбурэньня сыстэмы. Прапанаваны пастулят і вынікі ягонага парушэньня цалкам адпавядаюць тэорыі самаарганізацыі (сынэргетыкі), прапанаванай праф. Г. Хакенам. Аказваецца, матэрыя валодае фундамэнтальнымі якасьцямі самаарганізацыі. Таму кожная спроба чалавека сьвядома альбо не сьвядома парушыць прынцып самаарганізацыі чалавечага грамадзтва прыводзіць да вялікіх узрушэньняў ў ягоным асяродзьдзі, якія разбураюць сацыяльна-біялягічную сыстэму. З разьвіцьцём цывілізацыі павялічваецца магчымасьці аднаго чалавека, каторы знаходзіцца пры ўладзе, узьдзейнічаць на лёс сьвету, і разбуральная сіла, што зьяўляецца вынікам парушэньня прынцыпу самаарганізацыі, павялічваецца катастрафічна. Таму асабліва небясьпечным становіцца прыход да ўлады агрэсіўнага, уладалюбнага й некампэтэнтнага чалавека.

Мы, нашыя бацькі й дзяды, нашыя дзеці зьяўляемся сьведкамі і ўдзельнікамі камуністычнага экспэрымэнту на 1/6 частцы зямнога шару напрацягу ўжо больш 80 гадоў. Сутнасьць камуністычнай тэорыі ўсеўдымна сфармулявалі ейныя стваральнікі трыма словамі: «ліквідацыя асабістай уласнасьці» (1848 г.). На практыцы гэтая тэорыя пачала рэалізавацца як «права кожнага на чужую ўласнасьць» з фармаваньнем ідэалёгіі, у аснову якой былі пакладзеныя прынцып пралетарскага інтэрнацыяналізму й тэорыя клясавай барацьбы. Гэтая ідэалёгія, якая вызначаецца прывабнай прастатой і вiдавочнасьцю для некампэтэнтнага чалавека, сталася пануючай ва ўтворанай камуністамі імпэрыі. Рабілася спроба ажыцьцявіць спрадвечную мару людзей аб сацыяльнай справядлівасьці, роўнасьці, шчасьці.

Усё людзтва прымала ўдзел альбо непасрэдна, альбо ўскосна ў экспэрэмэньце й ягоныя сацыяльныя наступствы яшчэ доўга будуць адчувацца на посткамуністычнай прасторы. Глябальная спроба абыйшлася чалавецтву фантастычных інтэлектуальных, духоўных і матар'яльных каштоўнасьцяў, сотняў мільёнаў чалавечых жыцьцяў. Вынікі экспэрымэнту — беднасьць і дэградацыя людзей на большай частцы былой імпэрыі. Гэта плата чалавека за парушэньне ім законаў прыроды й жорсткае папярэджаньне аб тым, што парушэньне законаў прыроды можа прывесьці да непапраўных наступстваў для ўсёй цывілізацыі й, нават, да ейнага зьнікненьня.

У сыстэме, каторая супрацьстаяла камуністычнай, ішлі працэсы, якія садзейнічалі прынцыпу самаарганізацыі, асабліва ў эканоміцы, сацыяльнай сфэры, у галіне правоў чалавека. Посьпехі былі звышвідавочныя. Дэмакратычныя сілы ў выглядзе дэмакратычных партыяў з рознымі адценьнямі (хрысьціянскія, лібэральныя дэмакраты, сацыял-дэмакраты, проста дэмакраты) паступова заваёўвалі электарат. Іхнія палітычныя плятформы, праграмы, што дэкляравалі прыярытэт пра-

пер. За кожны пралік у працы можна адхапіць аплявуху ад прэзыдэнта. І, бывае, стаіць кіраўнік, ня ведаючы, куды вочы падзець, чырванее, быццам вінаваты школяр, пад градам зьнявагаў і зьнішчальнага разносу. Далібог, шкода глядзець на падобнае відовішча, каторае дэманструе стыль і ўзровень дзяржаўнага мысьленьня. Ні даць, ні ўзяць — як у нейкім занядбалым, вечна адсталым калгасе, на плянёрцы ў старшыні. Адзінае адрозьненьне: старшыня не пагражае надзець наручнікі, як гэта можна часам пачуць ад галавы дзяржавы.

...Калісьці, калі памятаеце, быў папулярны анэкдот пра тых, хто «вагаўся разам зь лініяй партыі». Сапраўды, не да ўсьмешак і гіранічных кпінаў сёньня, калі не ў пашане шчырасьць мяркаваньняў, калі зьнізу й даверху «вэртыкаль» пранізваюць настроі палітычнага канфармізму ды мімікрыі.

**Валеры Малочнікаў**
*«Брестский курьер»*

## «Партрэты віленчукоў»



Першая кніга, дакладней, невялічкая кніжыца **«Лявон Луцкевіч»** з гэтай сэрыі выдадзеная Выдавецтвам «Рунь». Вось што піша ва ўступе аўтарка кнігі й адна з стваральніцаў галерэі «партрэтаў» Галіна Войцік:

«Ініцыятарам стварэньня «Партрэтаў віленчукоў» была незабыўная наша пісьменьніца Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая-Войцік). Яна пачала зьбіраць жыцьцяпісы людзей заслужаных для беларускай культуры, але няслушна забытых. Ёй прыслалі свае аўтабіяграфіі Мар'ян Пецюкевіч і Мікола Марцінчык. Яна зьбірала зьвесткі пра Янку Пачопку, Пятро Ластаўку, Станіслава Грынкевіча, Язэпа Шнаркевіча, Антона Войціка.

Працу Зоські Верас падхапіў Лявон Луцкевіч. Ён падрыхтаваў 50 партрэтаў беларускіх дзеячоў, жыцьцёвы й творчы шлях каторых быў цесна зьвязаны зь Вільняй. «Дамалявала» партрэты ягоная жонка ды спадкіеміца Галіна Войцік. Апошні, пяцьдзесят першы, «партрэт віленчука», ёсьць партрэт самога Лявона Луцкевіча, напісаны пасьля ягонай сьмерці...

Выдавецтва «Рунь» пачынае друкаваць «Партрэты віленчукоў» асобнымі сшыткамі дзеля адсутнасьці сродкаў на выданьне ўсёй галерэі партрэтаў адной кнігай».

Падрыхтаваны да друку чарговы «партрэт» Аляксандра Каўша (аўтары Лявон Луцкевіч і Галіна Войцік), рыхтуецца «партрэт» Зоські Верас (аўтар Галіна Войцік), пачынальніцы сэрыі.

Шаноўны чытачы, вы можаце матар'яльна падтрымаць выданьне кніжак з сэрыі «Партрэты віленчукоў», купіўшы або замовіўшы іх.

Кошт адной кнігі зь перасылкай за мяжу — $ 3.

Кошт усёй сэрыі кніжак зь перасылкай — $ 100.

Грошы, як звычайна, лепш за ўсё дасылаць <u>імянным чэкам</u> на імя Паўла Саўчанкі (*Pavel Savcenko*) або Алегу Мінкіну (*Oleg Minkin*).

**А. М.**

## Падрыхтаваная да друку

кніга паэзіі Юрыя Весялкоўскага з Англіі **«Каляды на чужыне»**. Кніга пабачыць сьвет у сярэдзіне сьнежня й можа стацца выдатным калядным падарункам кожнаму аматару беларускага прыгожага пісьменства. Купляйце й замаўляйце ў нас кнігу «Каляды на чужыне»!

**А. М.**





Усе ахвотныя
могуць замовіць кнігі
**Выдавецтва беларусаў Літвы**

# РУНЬ:

**Алесь Алехнік. «Пад бел-чырвона-белым (Memento patriam).** Вільня, 1999.
Кошт зь перасылкай — $ 8.

**Сымон Шаўцоў. «Мая Адысея».** Вільня, 1999.
Кошт зь перасылкай — $ 5.

**Галіна Войцік. «Лявон Луцкевіч»** (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 3.

**Лявон Луцкевіч, Галіна Войцік. «Аляксандар Коўш»** (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 3.

**Галіна Войцік. «Зоська Верас»** (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 3.

**Лявон Луцкевіч, Галіна Войцік. «Аляксандар Уласаў»** (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 3.

**Юры Весялкоўскі. «Каляды на чужыне».** Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 10.

Грошы найлепш дасылаць <u>імянным чэкам</u> Паўлу Саўчанку (*Pavel Saucenko*) або Алегу Мінкіну (*Oleg Minkin*).

# ...індэкатар глябальнага крызысу цывілізацыі

воў чалавека, карыстаюцца штораз большай папулярнасьцю сярод выбаршчыкаў. Праўда, чамусьці расьце тэрарызм, наркаманія, назіраецца падзеньне духоўнасьці, абвастраюцца супярэчнасьці на нацыянальнай глебе ў Англіі, Ірляндыі, Гішпаніі, на Балканах, на Бліжнім Усходзе, у Азіі, Афрыцы, Амерыцы. Але гэтае лічыцца дробязьзю. У Эўропе на нашых вачох утвараецца цэнтар эканамічнай, палітычнай і ваеннай стабільнасьці, які абапіраецца на ваенную сілу НАТА. Цэнтар зьяўляецца прывабнай сілай для ўсіх дзяржаваў Эўропы, асабліва для краінаў, каторыя пазбавіліся камуністычнага дыктату й старающца максымальна сябе засьцерагчы ад імпэрскіх намераў цяперашняй Расеі, што развальваецца на вачох, але адмовіцца ад імпэрскіх амбіцыяў ня можа. Для гэтых краінаў уступленьне ў НАТА ёсьць гарантыя свабоды й незалежнасьці, гарантыя сацыяльнага дабрабыту. Амаль паўсюль у Эўропе прыходзяць да ўлады сацыял-дэмакраты, хрысьціянскія дэмакраты ўпэўнена займаюць другое месца ў палітычным рэйтынгу й гатовыя ў кожны момант перахапіць палітычнае стырно ў сваіх канкурэнтаў. Эўропа можа ганарыцца сваёй стабільнасьцю й дабрабытам, інтэграцыйнымі працэсамі спаміж дзяржавамі.

Але павольна тлеючы агмень нацыянальных супярэчнасьцяў у Югаславіі, запалены камуністычнай ідэалёгіяй (а, менавіта, пралетарскім інтэрнацыяналізмам),ператварыўся ў вялікі пажар, каторы зацягнуў у сваю арбіту практычна ўвесь сьвет. Балканскі ваенны канфлікт перайшоў у ваенную фазу. Больш двух месяцаў НАТА наносіла ракетна-бомбавыя ўдары па Сэрбіі. Вытворча-тэхнічны, матар'яльны патэнцыял краіны шматразова зменшыўся, разбурэньне капітальных збудаваньняў жудаснае. У той самы час сэрбы «агнём і мечам» вызвалялі сваю «этнічную» тэрыторыю ад альбанцаў. Сотні тысячаў альбанскіх уцекачоў беглі ў Альбанію, Македонію, Чарнагорыю. Сэрбская нацыя праводзіла генацыд іншай нацыі. Жыхары Чарнагорыі ды Македоніі з жахам за сваю будучыню назіралі, як за 2 месяцы зьмяніўся дэмаграфічны склад насельніцтва іхніх краінаў. Касаўскія ўцекачы паступова распаўсюджваліся па цэлым сьвеце. Пасьля ўводу ў Косава міратворчых сілаў сюды вярнуліся альбанцы. Тады з Косава пабеглі сэрбы. Дагэтуль там гараць дамы, працягвае разрастацца энэргетыка злосьці й нянавісьці. У наяўнасьці гуманітарная катастрофа сусьветнага маштабу.

Хто вінаваты ў гэтай трагедыі? У адказе на гэтае пытаньне не сумняюцца хіба камуністы. Расейская камуначынавецкая частка Думы адразу забылася на пралетарскі інтэрнацыяналізм і тэорыю клясавай барацьбы. Яна зь імпэтам выкрывала «злачынную арганізацыю НАТА» ды гатовая была, дзеля абароны славянскага народу Югаславіі, разьвязаць Трэцюю сусьветную вайну. Пры гэтым камуністычная фракцыя, не задумваючыся, зьмяніла свой тэарэтычны багаж: прынцып пралетарскага інтэрнацыяналізму на расавы інтэрнацыяналізм. Трагедыя альбанцаў Косава для іх не йснавала й не йснуе. Не адставала ў гэтым пытаньні ад камуністаў ЛДПР. Яна старалася быць яшчэ больш радыкальнай. Ня менш бездакорную палітыку праводзіў камуністычны рэжым Беларусі, каторы дамагаецца вяртаньня ядзернай зброі. Менавіта наш рэжым прыкладаў максымальныя намаганьні, каб уцягнуць Расею ў ваенны канфлікт ды павялічыць ягоныя маштабы.

Я размаўляў аб трагедыі ў Косава з шафёрам, рабочым, бабуляй пэнсіянэркай. Усе адзінадушныя ў тым, што НАТА ўчыніла ў Сэрбіі злачынства. Аднак НАТА бамбавала Сэрбію таму, што Мілошавіч парушае правы чалавека. Усе згаджаюцца з тым, што Мілошавіч таксама вінаваты, але вінаватыя й альбанцы. Яны жывуць на сэрбскай тэрыторыі й павінны жыць паводле сэрбскіх законаў. Аднак ці зьяўляецца злачынствам жаданьне народу жыць, прытрымліваючыся сваіх звычаяў, традыцыяў, духоўных каштоўнасьцяў, культуры, вучыць дзетак сваёй роднай мовы? Усе згодныя, што гэта не зьяўляецца злачынствам...

Хто тады ўсё ж вінаваты, што ў Эўропе выбухнула гуманітарная катастрофа? Пасьля роздуму, рабочы канстатуе: «Усе вінаватыя: НАТА, Мілошавіч, сэрбы, альбанцы, Расея, Беларусь. Расея вінаватая больш за ўсіх. Калі б яна не давала падставу Мілошавічу спадзявацца, што будзе абараняць яго, Мілошавіч не пасьмеў бы праваканаваць НАТА на бамбардыроўкі. Усім зразумела, што аднаго слова Ельцына было б дастаткова, каб кіраўніцтва Беларусі не паводзілася гэтак ваяўніча».

Сп. Пітэр Гэлбрайт (былы амбасадар ЗША ў Харваты) адказнасьць за ваенны канфлікт перадусім ускладае на Мілошавіча, але ў той самы час прызнае правакацыйнасьць тэрарыстычных дзеяньняў Арміі Вызваленьня Косава.

Калі адкінуць усю эмацыянальную афарбоўку падобных выказваньняў, іхнюю неадкладную выгаду для той ці іншай групы людзей, дык трэба прызнаць, што ў Косаве праявіліся ва ўсёй сваёй неўтаймавальнасьці разбуральныя сілы, як вынік парушэньня чалавецтвам прынцыпу самаарганізацыі матэрыі. Косава — яскравы прыклад пераходу іхняй колькасьці ў якасьць. Ваенны шлях дапамог толькі павялічыць гэтыя разбуральныя сілы. У канчатковым выніку, зь вялікімі разбурэньнямі й стратамі, НАТА згладзіла канфлікт, і міратворчыя сілы пад эгідай ААН служаць цяпер буферам паміж дзьвума нацыямі. А што ж рабіць з Крымам, дзе таксама праяўляецца косаўскі сындром? Што рабіць з Сыбірру, дзе імкліва расьце цюркамоўная папуляцыя кітайцаў у параўнаньні з карэннымі насельнікамі ды рускімі? Беларусь заўзята змагаецца за г. зв. «славянскі саюз», а тым часам на ейнай тэрыторыі таксама расьце цюркамоўная папуляцыя. Раён Шабаны г. Менску ўжо ёсьць фактычна Мікракосава. Праўда, пра Беларусь няма што гаварыць — яна аддадзеная сусьветнай супольнасьцю на гвалтаваньне рускамоўнаму імпэрскаму шавінізму ў якасьці платы за стабільнасьць у Эўропе. Чым заканчваюцца гэткія зьдзекі паказала Другая сусьветная вайна.

**Валеры Арцішэўскі**

**Віленская калекцыя**

# Звон



Людзі, бывае, зьбіраюць калекцыі. Я таксама зьбіраю. Толькі зьбіраю ня рэчы. Каб зьберагчы рэчы, трэба шмат грошай, мейсца ды яшчэ процьма ўсялякіх нязручнасьцяў. Таму я калекцыяную пачуцьці ды адчуваньні: пахі, смакі, гукі, дотыкі, вобразы. Вядома, як кожны калекцыянэр, я ганаруся сваім скарбам і пры нагодзе стараюся ім пахваліцца. Вось, напрыклад, адзін з экзэмпляраў маёй калекцыі.

На Катэдральнай плошчы стаіць вежа-званіца. Нават з фотаздымка можна ацаніць, якая яна пекная. Але я паспрабую апісаць вам ейны звон.

Цыферблаты, а іх на вежы чатыры, ня вельмі вялікія. Здалёк і не разгледзіш, што называюць стрэлкамі. Затое гадзіньнік мае толькі яму ўласьцівы звон. Ён пранікае ўсюды. І ўначы, і ў непагадзь, праз гвалт ды мітусьню: на аддаленых вуліцах, дзе вежы з гадзіньнікам нават і не відаць, ты усё роўна чуеш час.

Гадзіньнік адбівае кожны квадранец. Пятнаццаць хвілінаў — звоніць адзін раз, трыццаць — два разы, сорак пяць — тры, шэсьцьдзесят — чатыры. Адразу пасьля таго б'юць гадзіны. Галасы хвілінаў і гадзінаў розьняцца. «Хвіліны» — лёгкія, яны джаляць, як шпагі. «Гадзіны» — важкія, яны сякуць, як мячы. Празрысты вэлюм і аксамітныя банты. Агурок зь мёдам. Кожны раз узьнікаюць новыя асацыяцыі...

Цэлы дзень хаджу як ачмурэлы. Рой навязьлівых думак зьвініць у галаве. Цэлы дзень, цэлы дзень. Хочацца перапыніць гэты гук. Хоць ты падыйдзі ды ў сьцяну ілбом...

Ноч. Голас званоў цяпер чуваць вельмі выразна...

Загадка: маленькі цюцька падбег ззаду да большага й заліўся ценькім брэхам: «Цяўця-ля-ляў!» Большы агрызнуўся, гучна гыркнуўшы. Малы перапужаўся, але не спыніўся, не адступіў, а ірвануў наперад, пераскочыўшы цераз большага. Адбегшыся на бясьпечную адлегласьць, азірнуўся й зьвягнуў-такі яшчэ разок.

Дык вось пытаньне — колькі часу?

У віленскім паветры гучаць ня толькі гэтыя званы. Са шматлікіх цэркваў ды касьцёлаў на розныя галасы іншыя званы зазываюць на службу. Царкоўныя званы — як паэты — гавораць доўга, эмацыйна, нэрвова. Звон з маёй вежы — гэта голас жаўнера —простый, дакладны. «Зважай! Крокам руш...»

— Прабачце, калі ласка, колькі часу?

— Зараз паслухаю...

**Сьцяпан Дзінь-Дзілевіч**





Здымак Дзяніса Раманюка

## Вельмішаноўная «Рунь»!

У зваротах да чытачоў, каб падтрымлівалі газэту, прыпамінаецe нам, што «сябры рэдакцыі, разумеючы важнасьць для беларусаў усяго сьвету адраджэньня й захаваньня беларускасьці ў нашай старажытнай сталіцы Вільні, працуюць без заробкаў». За гэта —ім вялікая ўдзячнасьць. Але мала ўдзячнасьці, калі няма фінансавай падтрымкі. Прашу ўсіх нашых суродзічаў, дзе-б яны не былі, калі маюць магчымасьць, забясьпечыць «Руні» будучыню. Каб рэгулярна да нас зьяўлялася, каб расла. А навокал Вільні ёсьць нашыя беларускія парасткі, для якіх «Рунь» прыносіць натхненьне, маральную падтрымку, што адраджэньне жыве, што нашая беларуская сям'я расьце, забясьпечыць сабе будучыню, а перадусім, каб Бацькаўшчына нашая Беларусь была вольная й незалежная, каб Госпад Бог узяў яе ў апеку Сваю!

**Алесь Акула**
*Канада*




## Шаноўныя чытачы!

Дзякуючы вашым ахвяраваньням і грошам з падпіскі мы сёлета змаглі ўжо выдаць 8 нумароў газэты «Рунь». Аднак пасьля выхаду гэтага нумару ў касе рэдакцыі не засталося сродкаў на ейнае далейшае выданьне. Таму ласкава просім усіх, каму неабыякавы лёс «Руні», як мага хутчэй падпісацца на 2000 год, бо вашыя падпісныя грошы й ахвяраваньні пакуль што адзіная крыніца йснаваньня газэты. Нагадваем, што сябры рэдакцыі робяць захады дзеля атрыманьня датацыяў і адпаведнай выдавецкай тэхнікі ад дабрачынных фондаў і прыватных фірмаў у Літве, Беларусі й замежжы. Мы вельмі спадзяемся, што наступнае тысячагодзьдзе будзе больш спрыяльнае да нашых выдавецкіх плянаў. А пакуль што «Рунь» робіцца на адным энтузіязме ды веры ў лепшае будучае.

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

***Nr. 91756 AB banko HERMIS Vilniaus filialas, kodas 260101730***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (*т: 61 62 24*) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** паведамім адрас у Горадні ў наступным нумары. Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$ 4** (паводле дзяржаўнага курсу).

**Падпішчыкам у Расеі** паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе:
*191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364*, Ковалюк Евгении Трафимовне. Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку:
*Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo*. Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021***
***Lithuania***

*Ахвяраваньні на газэту:*

| | |
|---|---|
| **К. Акула** з Канады | $ 40 |
| **В. Кажан** з Амэрыкі | $ 20 |
| **М. Смаршчок** з Амэрыкі | $ 100 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў


РУНЬ газэта беларусаў Літвы

заснавальнік
Таварыства беларускай культуры ў Літве
выдаўцы
Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў
«Дэмакратыя дзеля Беларусі»
Таварыства беларускай культуры ў Літве
адрас рэдакцыі
*Żygimantų 12-3, 2001 Vilnius, Lithuania*
тэлефоны
*(+ 370 2) 42 38 02; 61 62 24*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Андрэй Цярэньцеў** — аддзел рэкламы
друк AB «Spauda»
наклад 1000
*ISNN* 1392-7671